РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 44 (7857) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 10 чэрвеня 2000 г. Цана 25 руб.

## VIII сесія раённага Савета дэпутатаў

Заўчора ў зале пасяджэнняў райвыканкама адбылася VIII сесія раённага Савета дэпутатаў. У яе рабоце, акрамя дэпутатаў, прынялі ўдзел старшыні сельскіх Саветаў і калгасаў, кіраўнікі прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, адказныя работнікі Савета і райвыканкама. Адкрыў сесію старшыня райсавета Мікалай Трубчык.

Сесія разгледзела пытанне аб асноўных напрамках работы аграпрамысловага комплексу па стабілізацыі аграрнай вытворчасці ў раёне, забеспячэнні насельніцтва прадуктамі харчавання. З дакладам выступіў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, дэпутат Віталь Грышанаў.

У спрэчках па дакладу выступілі: старшыня калгаса "Новы быт", дэпутат Віталь Шышоў; упраўляючая аддзялення Аграпрамбанка, дэпутат Тамара Чукава; дырэктар райаграпрамтэхнікі, дэпутат Міхаіл Патапенка; старшыня райпа, дэпутат Валерый Марозаў; дырэктар ААТ "Касцюковіцкая сельгасхімія" Сяргей Віннікаў.

Аб напрамках работы аграпрамысловага комплексу гаварыў старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў.

Сесія прыняла па абмеркаванаму пытанню адпаведнае рашэнне.

Інфармацыю аб ходзе выканання рашэння XV-й сесіі раённага Савета дэпутатаў ад 20.02.1998 года "Аб стане і мерах па забеспячэнню народнай гаспадаркі раёна працоўнымі рэсурсамі і кадрамі спецыялістаў" зрабіў намеснік старшыні райвыканкама Віктар Сугака.

Была заслухана інфармацыя аб задачах і ходзе выканання мерапрыемстваў Касцюковіцкага райвыканкама па выкананню распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця вобласці ў 1999 годзе" ад 2 сакавіка 2000 года. Яе зрабіла намеснік старшыні райвыканкама па эканоміцы Валянціна Кавунова.

Загадчыца фінансавага аддзела райвыканкама Святлана Каратцова выступіла з паведамленнем аб зацвярджэнні рашэнняў і распараджэнняў раённага выканаўчага камітэта.

Па разгледжаных пытаннях прыняты рашэнні.

*(Справаздача з сесіі райсавета дэпутатаў будзе апублікавана ў наступным нумары газеты).*

## Сёння важна:

- **Актыўна весці першы ўкос траў. Усяго па стану на 8 чэрвеня ў раёне скошаны травы на 1982-х гектарах пры плане 16320 гектараў. Лідзіруе калгас "Парыжская камуна", дзе травы скошаны на 340 гектарах пры плане 932.**
- 29 працэнтаў да плана выканана гэта работа ў калгасе "Радзіма", 21 працэнт -- у калгасе "Новае жыццё".
- **Марудзяць з першым укосам у калгасах імя Калініна, "Новы быт", "Смолькі", "Праўда", дзе травы скошаны ўсяго на 15, 50, 35, 50 гектарах. Гэта складае адпаведна 2, 3, 4, 4 працэнты да плана.**
- Неабходна выкарыстоўваць кожную спрыяльную гадзіну надвор'я для нарыхтоўкі сена. Па стану на 8 чэрвеня яго ўсяго нарыхтавана 537 тон, што складае 4 працэнты да даведзенага задання.
- **Нядрэнна ідзе нарыхтоўка сена ў калгасах "Парыжская камуна", "Радзіма", дзе ўжо нарыхтавана адпаведна 167 і 62 тоны гэтага каштоўнага корму, што складае 23 і 10 працэнтаў да плана.**
- Нельга забываць таксама аб хімпраполцы яравых збожжавых, кукурузы і караняплодаў.

## ДОШКА ГОНАРУ

<u>На нарыхтоўцы кармоў для грамадскай жывёлы вызначаюцца:</u>

**ЕМЯЛЬЯНЦАЎ Віталь Уладзіміравіч**, механізатар калгаса "Парыжская камуна", які на трактары МТЗ-80 з КУН-10 засціртаваў 150 тон сена.

**БРЫНДЗІКАЎ Мікалай Васільевіч** – механізатар гэтай жа гаспадаркі на трактары МТЗ-80 з ГВР-6 убраў сена на 198 гектарах.

**ШУМАНСКІ Эдуард Пятровіч** -- механізатар ДРБУ-130, які заняты нарыхтоўкай кармоў у калгасе "Парыжская камуна", на трактары МТЗ-80 з КДН-210 скасіў травы на 155-гектарнай плошчы.

Механізатар калгаса "Парыжская камуна" **ПРЫХОДЗЬКА Аляксандр Міхайлавіч** на трактары МТЗ-80 з ПРФ-750 запрэсаваў 135 тон сена.

**ЗАЙЦАЎ Мікалай Аляксеевіч** – механізатар калгаса "Радзіма" на трактары МТЗ-82 з ПРФ-145 запрэсаваў 50 тон сена.

**ГЕРАСІЧКІН Мікалай Уладзіміравіч** – механізатар гэтай гаспадаркі на трактары МТЗ-82 з КРН-2,1 скасіў травы на 45 гектарах.

**ІСАЕЎ Васіль Сяргеевіч** – механізатар калгаса "Радзіма" на трактары МТЗ-82 з ГВР-6 згроб сена на 60 гектарах.




**Высокімі тэмпамі ў калгасе "Парыжская камуна" ідзе нарыхтоўка кармоў для грамадскай жывёлы. Балазе, гэтаму спрыяе і добрае надвор'е. Тут мабілізавалі на сенажаць неабходную тэхніку. Так шэфы з ДРБУ-130 Эдуард Шуманскі і Міхаіл Шумскі заняты касьбой траў. Варушыць валкі Мікалай Брындзікаў. Аляксандр Прыходзька прэсуе гатовае сена. І аб тым, што кожны з іх на сваім участку добра пастараўся, сведчыць вынік іх агульных намаганняў.**

**У калгасе нарыхтавана для грамадскага статку 150 тон сена, якое засціртаваў старанны механізатар калгаса Віталь Емяльянцаў. Вядома, яго звяно ў ланцугу нарыхтоўкі кармоў – адно з адказных. Ад таго, як будзе засціртавана сена, так яно і захаваецца да зімовых халадоў. Віталь жа гэту справу асвоіў добра. Займаўся сціртаваннем сена ў мінулым годзе. Гэта робіць і сёлета.**

**На здымках: Віталь ЕМЯЛЬЯНЦАЎ; ідзе сціртаванне сена.**



## НАВІНЫ

### НА ЭКСПАРТ І НА РЫНАК РЭСПУБЛІКІ

Год за годам нарошчвае вытворчасць Беларускі цэментны завод. Калі ў 1996 годзе (час пуску 1-й тэхналагічнай лініі) было выраблена 15,9 тысячы тон прадукцыі, у 1997 годзе – 182 тысячы тон, то спачатку сёлетняга – 152 тысячы 727 тон.

Стабільна працаваў калектыў прадпрыемства ў маі. Выткарана 50 тысяч 36 тон высокаякаснай прадукцыі не толькі для патрэб будоўляў рэспублікі, а і на экспарт. У Прыбалтыйскія рэспублікі – Літву, Латвію, Эстонію – адгружана больш як 14 тысяч тон. 3325 тон мелу закупіла адкрытае акцыянернае таварыства "Забудова" г. Мінска.

**Сяргей НОВІКАЎ, намеснік дырэктара БЦЗ па інфармацыйнай рабоце.**

### ЛЕКТАРСКАЯ ГРУПА – У ЭНЕРГЕТЫКАЎ

Адбылася сустрэча членаў раённай лектарскай групы з працоўным калектывам раёна электрасетак. У яе склад уваходзілі загадчык аддзела інфармацыі райвыканкама Ігар Кавалёў, першы сакратар райкама грамадскага аб'яднання Беларускага патрыятычнага саюза моладзі Віктар Бурака, намеснік начальніка раённага вузла паштовай сувязі Валянціна Холадава і намеснік дырэктара ўнітарнага прадпрыемства "Водаканал" Надзея Тарасенка.

На парадак дня выносіліся наступныя пытанні: аб падпісцы на перыядычныя выданні на другое паўгоддзе 2000 года, аб рабоце раённай службы "Водаканал", бягучы палітычны момант.

У шчырай гутарцы ўзнімаліся праблемы, якія тычацца забеспячэння насельніцтва пітной вадой. Прысутныя цікавіліся палітычнай абстаноўкай у суседняй Расіі. Усе пытанні, паступіўшыя ў ходзе сустрэчы, былі зафіксіраваны ў справаздачным лісце і ўзяты на кантроль.

**Генадзь СОЛАЎ.**

## ЛАДЗЯЦЦА СПРАВЫ

Сенакосная пара ў механізатараў калгаса імя Карла Маркса ў разгары. Вось толькі дажджлівае надвор'е перашкаджае сушцы сена. Нарыхтавалі яго тут 30 тон. А касілкі працуюць няспынна. На іх заняты М. І. Лукашэнка, А. Л. Лістраценка, В. Н. Дзмітрачэнка. З раніцы і да позняга вечара шчыруюць яны на лугах.

Як толькі падсыхае трава, на трактары з прэспадборшчыкам выязджае С. Ф. Кротаў. Ладзяцца і ў яго справы.

## ЗВЕСТКІ

***аб нарыхтоўцы кармоў у гаспадарках раёна па стану на 8 чэрвеня г.г.***

*Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – скошана траў першага ўкосу (у % да плана), трэцяя – нарыхтавана сена (у % да плана).*

| | | |
|---|---|---|
| "Пар. камуна" | 36 | 23 |
| "Радзіма" | 29 | 10 |
| "Новае жыццё" | 21 | 4 |
| "Забычанне" | 21 | 4 |
| "Лен. шлях" | 21 | 6 |
| "Расія" | 20 | 3 |
| імя К. Маркса | 13 | 2 |
| "Прагрэс" | 10 | 4 |
| "Кранштат" | 8 | 4 |
| "Дуброва" | 6 | 1 |
| "Бароньки" | 5 | 0 |
| "Праўда" | 4 | 1 |
| "Смолькі" | 4 | 0 |
| "Новы быт" | 3 | 1 |
| імя Калініна | 2 | 5 |
| **ПА РАЁНУ:** | **12** | **4** |

## Аб кармах і сувязі

На аператыўнай нарадзе, якая адбылася ў зале пасяджэнняў райвыканкама, разгледжаны два пытанні: аб аказанні шэфскай дапамогі калгасам на нарыхтоўцы кармоў і ўстаноўцы транкінгавай радыётэлефоннай сістэмы сувязі. Вёў нараду старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў.

З дакладам аб ходзе нарыхтоўкі кармоў выступіў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў. Ён адзначыў, што рашэнне выканкама аб аказанні фінансавай дапамогі, людскімі рэсурсамі і тэхнікай прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі горада выконваецца, але не ўсімі. Напрыклад, з 530 працуючых у трэсце №10 "Цэментабуд" падшэфнаму калгасу "Ленінскі шлях" аказваюць дапамогу ў корманарыхтоўцы штодзень толькі 5-7 чалавек.

Караняплодамі ў калгасах занята 350 гектараў, трэба як след догледзець пасевы, бо плошчы ў параўнанні з мінулым годам паменшаны. Калгасы нарыхтоўваюць сена толькі сваёй тэхнікай, шэфскай дапамогі пакуль не адчуваецца.

Аб тым, што робіцца па дапамозе калгасам у нарыхтоўцы кармоў, справаздачы трымалі кіраўнікі ДРБУ-130, сельскага камунгаса, аўтапарка №8, прадпрыемства "Касцюковічнафтапрадукт", ПМК-260, ДБУ-37 і іншыя. Яны запэўнілі, што іх калектывы ўключацца ў важную сельскагаспадарчую кампанію.

Па ўстаноўцы ў раёне сваёй станцыі радыётэлефоннай сувязі, перавагах выкарыстання сістэмы "Роса-Т" з інфармацыяй выступіў начальнік вузла электрычнай сувязі Мікалай Васіленка. Тут жа, на нарадзе, згоду на ўстаноўку новай сістэмы далі кіраўнікі Беларускага цэментнага завода, райпа, лягаса, ПМК-260 і іншыя.

**Весткі з лясгаса**

## КОНКУРС МАЙСТЭРСТВА

Нядаўна ў Касцюковіцкім лясгасе прайшоў конкурс прафесійнага майстэрства сярод вальшчыкаў лесу. На спецыяльна адведзеным участку ў Бялынкавіцкім лясніцтве дэманстравалі сваё майстэрства прадстаўнікі 15-ці лясніцтваў.

Веданне матэрыяльнай часці мотапіл, практычны стаж работы дазволілі вальшчыку брыгады лесапункта Мікалаю Арэхаву стаць лідэрам.

Прызёрамі сталі Аляксандр Сцепчанка з Забялышынскага і Юрый Голікаў з Бялынкавіцкага лясніцтваў. Яны заахвочаны ганаровымі граматамі лясгаса і каштоўнымі падарункамі.

У камандным заліку лепшай была брыгада лесапункта. За зладжаныя дзеянні і майстэрства яна атрымала бензапілу “Штыль-036”.

## ЗАГАД – У ЛЕС НЕ ХАДЗІЦЬ

На пажаранебяспечны перыяд ва ўсіх лясніцтвах лясгаса арганізавана кругласутачнае дзяжурства. Плануецца таксама абмежаваць доступ у лясныя масівы грамадзян усіх катэгорый, забараніць уезд у лес на аўтатранспарце і г.д.

## АСВЕЧАНЫ РАБОЧЫЯ МЕСЦЫ

Настаяцель Прусінскай Свята-Казанскай царквы айцец Мікалай асвяціў рабочыя месцы ў лесапункце і канторы прадпрыемства.

**Уладзімір ТАРАКАНАЎ, юрысконсульт лясгаса.**

**Два пісьмы на адну тэму**

## Забыты пасёлак

Здарылася так, што ў свой час мы раз'ехаліся ўсе з бацькоўскага дома ў пошуках месца работы, ды і долі. Нібы і знайшлі кожны тое, што шукаў, а страцілі самае дарагое. Родны куточак – пасёлак Чырвоны -- апусцеў. Наведала яго нядаўна, сэрца крывёю аблілося. Жывуць тут зараз некалькі пенсіянераў. Усе яны працавалі некалі ў калгасе. Мая маці ўсё жыццё прарабіла ветэрынарным урачом. Ёсць тут і былыя механізатары, даяркі.

Пасёлачак наш размешчаны ў некалькіх сотнях метраў ад бойкай трасы Касцюковічы-Хоцімск. Аднак дабрацца ад яе да пасёлка і прайсці па вуліцы складана. Тут шмат закінутых дамоў, дарогі па вуліцы няма, яна зарасла травою, па ёй праехаць нельга. Спатрэбіцца выклікаць “хуткую дапамогу”, то хворага трэба несці на край пасёлка. Колькі разоў уздымалі пытанне рамонту дарогі, а справа застаецца на месцы.

За боханам хлеба старым трэба хадзіць у Прусінскую Буду. “Там блізка”, — заўважыць маладыя і здаровы. Так, але старым пераадолець гэты шлях вельмі цяжка. Ведаю, што раней у вёскі, дзе адсутнічаюць магазіны, прыязджала аўталаўка. Чаму б і пасёлак Чырвоны не ўключыць у яе маршрут?

Здзіўляе іншае. Чаму ў Дзямідавіцкім сельскім Савеце не клапоцяцца пра добраўпарадкаванне вёсак? Хацелася б, каб на гэтыя пытанні жыхары пасёлка Чырвоны атрымалі адказы.

**Таццяна ЦІШКЕВІЧ.**

## Хаця б скрыню ўстанавілі

Колькі разоў звярталіся ў вытворчае аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі за дапамогай, толькі нас ніхто не чуе. Некалькі гадоў назад у нашым двары пакінулі скрыню для смецця. Яна і сёння ляжыць не ўстаноўленая. А між іншым, куча смецця побач з ёй, расце з кожным годам, бо яго некуды дзець.Гноевая жыжка цячэ на агароды. І яшчэ адна праблема. Наш дом не добраўпарадкаваны. Таму карыстаемся грамадскім туалетам, які таксама гадамі ніхто не чысціць. Дапамажыце!

**Жыхары дома № 2, што па вуліцы Савецкая горада.**

**Чалавек і яго справа**



**З далёкай Поўначы некалькі гадоў таму назад прыехала ў наш раён Людміла Броўкіна. Муж прывёз яе на сваю радзіму, якая для маладой жанчыны стала таксама роднай. Тут нарадзіліся іх дзяўчынкі – Сашачка і Святланка. Тут Людміла працуе па абранай спецыяльнасці: у свой час закончыла курсы закройшчыкаў. У камбінаце бытавога абслугоўвання насельніцтва яна – адзіная закройшчыца па пашыву верхняга мужчынскага, жаночага і дзіцячага адзення.**

**— Цяжкавата адной спраўляцца з такой работай? — пытаемся.**

**— Ды не. Прывыкла, — усміхаецца ў адказ. – Вельмі рада людзям. Задаволена, калі шмат работы.**

**Нельга не пагадзіцца з Людмілай Ціханаўнай. Больш заказчыкаў — больш заработная плата і ў закройшчыцы, і ў рабочых брыгады Зінаіды Віннікавай, у якой працуе Броўкіна. А тое, што Людміла з душой адносіцца да выканання сваіх абавязкаў, відавочна. Цёплыя водгукі аб яе рабоце і ў заказчыкаў, і ў кіраўніцтва райбыткамбіната. Той, хто хаця аднойчы рабіў заказ на пашыў рэчаў у Л. Броўкінай, абавязкова звяртаюцца зноў да яе. Людміла Ціханаўна заўсёды ўважліва выслухае чалавека, тонка, тактоўна падкажа яму, як лепей пашыць той жа касцюм, што да твару, што сёння модна. Яна выканае заяўку настолькі якасна і добра, што слова супраць нельга сказаць. Настрой узніме на самы высокі ўзровень. Бывалі выпадкі, калі яе заказчыкі пакідалі атэлье ў пашытых рэчах, так яны ім былі даспадобы, што хацелася пакрасавацца ў абноўцы не адкладваючы.**

**Галоўны інжынер камбіната бытавога абслугоўвання Галіна Саўчанка шмат добрых слоў сказала ў адрас Броўкінай. Ды яно так і павінна быць: заслугоўвае пахвалы гэта старанная жанчына.**

**На здымку: Людміла БРОЎКІНА. Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

*Заместитель председателя райисполкома Валентина КОВУНОВА*

# Условия финансирования инвестиционных проектов

## за счет средств областного бюджета, республиканского бюджета и Фонда поддержки экспорта

Предоставление финансовой помощи субъектам малого предпринимательства за счет средств областного бюджета осуществляется на возвратной и льготной основе через уполномоченные банки, с которыми Комитет заключает договора. Сумму, форму и условия представления финансовых ресурсов, срок погашения определяет Совет по развитию предпринимательства облисполкома.

Финансовая помощь предоставляется в виде: кредитных ресурсов; частичной компенсации расходов субъектам малого предпринимательства по выплате процентов за пользование банковскими кредитами, направленными на финансирование их инвестиционных проектов, а также расходов по выплате лизинговых платежей по договорам финансовой аренды (лизинга) в части оплаты банковских процентов за пользование лизингодателям заемными средствами на приобретение объекта лизинга; кредиты, направленные на реализацию инвестиционных проектов СМП, выдаются по ставке, не превышающей 25 процентов базовой ставки рефинансирования Национального банка Республики Беларусь.

Величина частичной компенсации субъектам малого предпринимательства расходов по выплате процентов за пользование банковскими кредитами, направленными на финансирование их инвестиционных проектов (расходов по выплате лизинговых платежей по договору финансовой аренды (лизинга) в части оплаты банковских процентов за пользование лизингодателям заемными средствами на приобретение объекта лизинга) устанавливается в размере не более 0,5 ставки рефинансирования Нацбанка Республики Беларусь.

В настоящее время Белорусский фонд финансовой поддержки предпринимателей и его Могилевский филиал продолжают осуществлять кредитование производственных и коммерческих проектов, в том числе на условиях финансового лизинга. Фонд предоставляет микрокредиты на платной основе на принципах материальной обеспеченности, целевой направленности, срочности и возвратности, в безналичной форме в строгом соответствии с кредитным договором. Плата за пользование кредитными ресурсами не превышает ставку рефинансирования Национального банка Республики Беларусь.

Заемщиками могут выступать юридические лица Республики Беларусь и индивидуальные предприниматели. Максимальный объем микрокредита соответствует 2500 минимальным заработным платам и предоставляется на срок от 30 дней до 1 года. Отличительной особенностью микрокредитования является то, что заемщики, своевременно рассчитавшиеся с Фондом по своим обязательствам, могут получить следующий микрокредит до 5000 МЗП по упрощенной процедуре оформления необходимых документов.

В качестве обеспечения выдаваемых кредитов может выступать как личное имущество индивидуальных предпринимателей и юридических лиц, так и имущество поручителей. Белорусский фонд финансовой поддержки предпринимателей и его филиал осуществляют помощь в разработке инвестиционных бизнес-планов, проводят консультации по организации и ведению бизнеса в Республике Беларусь.

В настоящее время принято решение о сохранении условий оказания государственной поддержки субъектам малого предпринимательства в реализации инвестиционных проектов за счет централизованных инвестиционных ресурсов – государственных капитальных вложений, в соответствии с постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 22 сентября 1998 года № 1473 "О конкурсном размещении централизованных инвестиционных ресурсов". Порядок выделения средств из республиканского бюджета на финансирование государственных капитальных вложений определен постановлением Кабинета Министров Республики Беларусь от 26 июня 1995 года № 329 (в редакции постановления Совета Министров Республики Беларусь от 16 апреля 1999 года № 540).

Государственная поддержка за счет централизованных инвестиционных ресурсов оказывается юридическим лицам и физическим лицам, осуществляющих свою деятельность без образования юридического лица: при условии, что в реализацию победившего в конкурсе инвестиционного проекта ими вкладывается не менее 20 процентов собственных средств от полной стоимости данного проекта.

Для реализации победившего в конкурсном отборе инвестиционного проекта, выделение указанных средств осуществляется на принципах срочности и возвратности с уплатой процентов за пользование ими через банки, уполномоченные обслуживать государственные программы, а также в виде гарантий правительства под заемные средства на эти цели в размере, не превышающем 40 процентов от фактически предоставленных банками кредитных ресурсов.

Централизованные инвестиционные ресурсы на финансирование инвестиционных проектов перечисляются в пределах фактически произведенных затрат с соблюдением доли централизованных ресурсов, доли собственных средств победителя конкурса и заемных средств.

Бюджетные средства выделяются на определенный срок исходя из нормативных сроков окупаемости. При этом предельный срок предоставления средств не должен превышать 5 лет со дня первой выдачи средств и до полного их возврата. Процентная ставка за пользование бюджетными средствами взимается в размере 0,5 ставки рефинансирования Национального банка.

Конкурсный отбор инвестиционных проектов осуществляется Комитетом по инвестициям при Министерстве экономики. Более подробную информацию вы можете получить по адресу: г. Могилев, ул. Ленинская, д. 61.

**Тел.: 22-45-88 – Могилевский областной территориальный комитет предпринимательства и инвестиций.**

**Тел.: 22-61-30, 22-64-86 – Могилевский филиал Белорусского фонда финансовой поддержки предпринимателей.**

**У дзіцячай школе мастацтваў**

## Стали дипломантами

Юные музыканты Костюковичской детской школы искусств стали дипломантами в Германии. На международном детском фестивале аккордеонной и баянной музыки, который проходил в немецком городе Доерлинг, ученица пятого класса, баянистка Елена Воронцова завоевала диплом первой степени и призовой кубок. Второклассник этой же школы Рамеш Мерзаев, выступивший с аккордеоном, награжден дипломом фестиваля. В этом музыкальном соревновании, которое проводил местный аккордеон-клуб, участвовали юные исполнители из Германии, трех Прибалтийских республик. Честь Беларуси защищали двое воспитанников Костюковичской школы.

Они, а также хореографическая группа и десять инструменталистов были приглашены на оздоровление. Но юные Костюковичские музыканты и танцоры не сидели сложа руки. Они дали одиннадцать концертов для своих сверстников в местных общеобразовательных школах и на открытых площадках города Доерлинга.

**Соб. инф.**

## ШЧОДРАЯ “ЗАЛАТАЯ ПЧОЛКА”

*Нядаўна выхаванцы Касцюковіцкай школы мастацтваў прынялі ўдзел у абласным фестывалі дзіцячай творчасці “Залатая пчолка”, які праходзіў у Клімавічах. Пяць гадоў назад нарадзіўся гэты цудоўны дзіцячы фестываль. І нездарма ініцыятары яго назвалі “Залатой пчолкай”, бо гэта крылатая працаўніца ўвасабляе сабой стараннасць і настойлівасць – якасці, якія так неабходны, каб дасягнуць пэўных вяршынь у мастацтве.*

*Напачатку гэта быў рэгіянальны фестываль. Першымі яго ўдзельнікамі сталі юныя артысты з Крычаўскага, Касцюковіцкага, Краснапольскага, Слаўгарадскага раёнаў Магілёўшчыны, а таксама суседняга Шумячскага раёна Смаленскай вобласці. Паступова пашыралася геаграфія фестывалю. У мінулым годзе яго статус змяніўся: ён стаў абласным.*

*Сёлета ў фестывалі “Залатая пчолка” прынялі ўдзел творчыя калектывы юных артыстаў амаль з усіх раёнаў нашай вобласці. Варта заўважыць, што вышэйшыя ўзнагароды фестывалю дасталіся выхаванцам Касцюковіцкай школы мастацтваў. Дыпломам першай ступені ўзнагароджана трыо: Яна Церашэнка, Алеся Сачнёва і Юля Тодрык. Дарэчы, Юля ўзнагароджана і Дыпломам другой ступені за выкананне песні “Асенні трамвайчык”. Дыплом фестывалю ўручаны Аксане Талкачовай за выкананне песні “Дарожная” і дуэту ў складзе Віталя Анжанкава і Аляксандра Гіркіна за песню “Омут”. Аляксандр Гіркін атрымаў Дыплом трэцяй ступені за аўтарства.*

*Юныя мастакі Павел Баксалаў і Насця Баранава прынялі ўдзел у конкурсе малюнка на асфальце, за што Насця была заахвочана Дыпломам другой ступені. Дарэчы, усе дыпламанты фестывалю “Залатая пчолка” атрымалі ў падарунак цудоўныя мяккія цацкі, а ўсе ўдзельнікі конкурсаў былі матэрыяльна заахвочаны.*

*Варта адзначыць, што рабяты прымалі ўдзел не толькі ў конкурсах. Яны выступілі з канцэртнай праграмай разам з юнымі артыстамі Магілёўскага раёна ў Звянчацкім сельскім Доме культуры. Для дзяцей таксама ў дні фестывалю была арганізавана гульнявая праграма, дыскатэкі і іншыя забавы.*

***Ул. інф.***

# ПРОГРАММА ТЕЛЕВИДЕНИЯ

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 12 июня

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.45 Новости.
8.15 Резонанс.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Сегодня с вами...»
9.50 Здоровье.
10.15 Детский экран.
10.35 Теленавигатор.
11.10 «Все мои дети». Телесериал.
11.55 «Судьба человека».
12.25 Музыкальный салон.
13.10 Бездельник.
15.15 «Таинственный мир Алекс Мак-2».
15.40 Мультфильмы.
16.35 Авто-парк.
16.45 Премьера песни.
17.15 «А музыка звучит...»
17.35 Туробъектив.
18.00 Док. сериал «Исторические расследования».
18.40 МСН.
19.20 Политические диалоги.
19.55 «Все мои дети». Телесериал.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 «Одиссея команды Кухто».
22.25 «Стулья». Спектакль.
23.15 Третий тайм.
23.55 Футбол. Чемпионат РБ. «Гомель» — БАТЭ». 2-й тайм.
0.45 Криминальная хроника.

### ОРТ

7.00, 9.00, 14.00 Новости.
7.10 «Александр Невский». Худ. фильм.
9.10 Играй, гармонь любимая!
9.40 Пока все дома.
13.30 История Российской символики.
14.10 Худ. фильм «Служили два товарища».
15.50 Спектакль театра «Современник» «Крутой маршрут».
17.15 Смехопанорама.
17.50 Худ. фильм «Серые волки».
20.00 Время.
21.00 КВН - 2000.
23.10 Футбол. Чемпионат Европы. Сборная Германии — сборная Румынии.

### РОССИЯ

7.00 Худ. фильм «Гардемарины-III».
8.50 Доброе утро, страна.
9.25 «Аншлаг» и К°.
10.30 Сам себе режиссер.
12.00, 19.00 Вести.
16.40 Михаил Задорнов. «От путча до Путина». Телефильм.
19.45 Кинокомедия «Безумно влюбленный».
21.40 Футбол. Чемпионат Европы-2000. Португалия — Англия.
23.55 «Футбол + ТВ».

### «МОГИЛЕВ-1» на БТ

13.35 Пунктир.
14.15 «Скарбы». «Саломапляценне на Магілеўшчыне».2 частка.
14.35 Видеодром.

## ВТОРНИК, 13 июня

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55 Новости.
8.10 Политические диалоги.
8.40 Потребительская корзина.
9.10 Детский экран.
15.13 «Матрос Чижик». Худ.фильм.
16.35 Мультфильмы.
17.10 «Пластилин». Телефильм.
17.30 Сельчане.
18.00 Док.сериал «Исторические расследования».
18.40 МСН.
19.15 Ток-шоу «Будни».
20.00 «Все мои дети». Телесериал.
20.45 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 В.Ильин в кинокомедии «Хочу в тюрьму».
23.25 Музыка без границ.
0.05 Криминальная хроника.
0.10 «Неизвестный Наполеон». Видеофильм.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.00 Новости.
8.15 Мелодрама «На тебя уповаю».
9.55 Поле чудес.
14.15 «Невероятные приключения Джонни Квеста».
14.40 Возможно все!
14.55 «Царь горы».
15.25 ...До шестнадцати и старше.
16.00 Премьера сериала «Вавилонская башня».
17.30 Планета КВН.
18.05 «Секретный полигон».
18.20 Детектив «Осторожно: красная ртуть!»
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 «Рынок рабов». Чеченские хроники.
21.50 Футбол. Чемпионат Европы. Сборная Испании — сборная Норвегии.

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 16.00, 19.00 Вести.
7.20, 0.05 «Дежурная часть».
8.35 Мультсериал.
8.45 «Черный пират». Мультсериал.
9.15 «Цыганка».
10.05 «Санта-Барбара».
16.35 «Тайны тысячелетия с Арменом Джигарханяном».
17.25 Сериал «Монахини в бегах».
18.25 «Круглая дата».
19.45 «Дикий ангел».
21.30 Футбол. Чемпионат Европы-2000. Югославия — Словения. (В перерыве — Вести).
23.45 Чемпионат Европы по футболу-2000. Итоги дня.

## СРЕДА, 14 июня

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55 Новости.
8.10 «Сегодня с вами...»
8.35 Потребительская корзина.
8.53 Выпускной экзамен по математике за курс базовой школы.
9.10 Детский экран.
9.35 Око.
9.55 Компьютерный полигон.
10.15, 11.15 «Все мои дети». Телесериал.
12.00 Ток-шоу «Будни».
12.45 Док. экран. «День по-над лесом».
14.25 Ток-шоу «Карамболь» с участием Земфиры.
15.10 «Таинственный мир Алекс Мак-2».
15.35 ТВ — школе.
16.00 «5 х 5».
16.30 Документальный экран.
17.10 Фильм-концерт.
17.33 «Макаенка,9».
18.03 Док.сериал «Исторические расследования».
18.43 МСН.
19.15 Лотерея «Толока».
19.25 «Наши песни».
19.55 «Все мои дети». Телесериал.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 «Воскресение». 1-я серия.
23.25 Королевская охота.
0.05 Криминальная хроника.
0.10 «Неизвестный Наполеон». Видеофильм.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.40 Новости.
8.15 «Вавилонская башня». Сериал.
9.15 Пока все дома.
9.50 Как это было.
10.30 Сериал «Новые приключения Синдбада».
14.15 «Невероятные приключения Джонни Квеста».
14.40 Классная компания.
14.55 Зов джунглей.
15.25 ..До шестнадцати и старше.
16.00 «Вавилонская башня». Сериал.
17.30 Маски-шоу.
18.05 Худ. фильм «Банковый билет в миллион фунтов стерлингов».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Время футбола: ЕВРО - 2000.
21.35 Футбол. Чемпионат Европы. Сборная Италии — сборная Бельгии.
23.55 Комедия «Большое приключение коротышки».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.20, 1.05 «Дежурная часть».
8.35 Мультсериал.
8.45 «Черный пират». Мультсериал.
9.15 «Цыганка».
10.05 «Санта-Барбара».
16.35 «Тайны тысячелетия с Арменом Джигарханяном».
17.25 Сериал «Монахини в бегах».
18.25 Сам себе режиссер.
19.45 «Дикий ангел».
21.30 «Обыкновенный ваххабизм». Док. фильм.
22.30 Мужчина и женщина. Надежда Бабкина.
23.25 Торжественная церемония закрытия XI Открытого Российского кинофестиваля в г. Сочи.

### «МОГИЛЕВ-1» на БТ

13.15 Тяжелый день.
13.35 Бобруйский вариант.
13.55 Мультфильм.

## ЧЕТВЕРГ, 15 июня

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.50 Новости.
8.10 «Сегодня с вами...»
8.35 Потребительская корзина.
8.53 Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс средней школы.
9.10 Королевская охота.
9.40 «На волне взаимопонимания».
10.25 Поэтесса Нина Матяш.
11.10 «Все мои дети». Телесериал.
11.55 «Наши песни».
12.25 Телевизионный Дом кино.
13.10 А.Мартынов и С.Крючкова в худ.фильме «Гори, гори ясно...». 1-я серия.
14.15 Столичный хит.
15.15 «Иванко и царь Поганин». Худ. фильм.
16.35 Телеочерк.
17.10 Арсенал.
17.35 Усадьба.
18.00 Телесериал «Сити».
18.45 МСН.
19.15 «Премьер-парад».
19.55 «Все мои дети». Телесериал.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 «Воскресение». Худ. фильм. 2-я серия.
23.35 Крок.
0.00 Криминальная хроника.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.00 Новости.
8.15 «Вавилонская башня». Сериал.
9.15 Маски-шоу.
9.45 «В поисках утраченного».
10.30 «Новые приключения Синдбада» (заключ. серия).
14.15 «Невероятные приключения Джонни Квеста».
14.40 Семь бед — один ответ.
14.55 «100%».
15.25 ...До шестнадцати и старше.
16.00 «Вавилонская башня». Сериал.
17.30 «Каламбур».
18.05 Детектив «Вербовщик».
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Худ. фильм «Призрак и Тьма».
23.15 «Монте-Карло-2000».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 19.00 Вести.
7.20, 0.00 «Дежурная часть».
8.35 Мультсериал.
8.45 Мультсериал.
9.15 «Цыганка».
10.05 «Санта-Барбара».
16.35 «Тайны тысячелетия с Арменом Джигарханяном».
17.25 Сериал «Монахини в бегах».
18.25 Клуб «Белый попугай».
19.45 «Дикий ангел».
21.30 Футбол. Чемпионат Европы. Швеция — Турция. (В перерыве — Вести).
23.45 Чемпионат Европы по футболу. Итоги дня.
0.15 Комедиия«Пустые слова».
1.25 Горячая десятка.

## ПЯТНИЦА, 16 июня

### БТ

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.40 Новости.
8.15 Док. экран. «Край чистой воды».
8.40 Потребительская корзина.
9.10 «Бременские музыканты». Спектакль.
10.10 Мультфильмы.
11.15 «Все мои дети». Телесериал.
11.55 «Премьер-парад».
12.20 Сделано в Беларуси.
12.35 Усадьба.
13.10 «Гори, гори ясно...» Худ. фильм. 2-я серия.
15.10 «Таинственный мир Алекс Мак-2».
15.35 Мультфильм.
15.45 Регион.
16.10 «Риск-версия».
16.40 Телебарометр.
17.10 «А музыка звучит...»
17.40 Док. экран. «...В вечное пользование...».
18.00 Телесериал «Сити»(США).
18.45 МСН.
19.20 «Москва — Минск».
19.55 «Все мои дети». Телесериал.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Мелодрама «Превратности женской судьбы»(Индия).
0.15 Бездельник.
0.50 Криминальная хроника.

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.50 Новости.
8.15 «Вавилонская башня». Сериал.
9.15 Здоровье.
9.50 Умники и умницы.
10.35 Смак.
13.30 «Вместе».
14.15 Страна чудес. «Таинственный сад».
16.00 «Вавилонская башня». Сериал.
17.25 Джентльмен-шоу.
17.50 Человек и закон.
18.30 Вкусные истории.
18.45 Поле чудес.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.45 Футбол. Чемпионат Европы. Сборная Франции — сборная Чехии.
23.10 Детектив «Хозяин города».

### РОССИЯ

7.00, 8.00, 16.00, 19.00 Вести.
7.20, 1.00 «Дежурная часть».
7.35 Семейные новости.
8.35 Мультсериал.
8.50 Москва — Минск.
9.15 «Цыганка».
10.05 «Санта-Барбара».
16.35 «Тайны тысячелетия».
17.20 Сериал «Монахини в бегах».
18.25 «Городок».
19.45 «Дикий ангел».
21.30 Футбол. Чемпионат Европы. Дания — Голландия. (В перерыве — Вести).
23.45 Чемпионат Европы по футболу-2000. Итоги дня.
0.00 «Панорама».

### «МОГИЛЕВ-1» на БТ

14.20 «Откровенно...».
14.40 Мультфильм.

## СУББОТА, 17 июня

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Сущность. Духовная программа ко Дню Святой Троицы.
8.30 Усадьба.
9.00, 15.00, 18.45 Новости.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Сегодня с вами...»
9.55 «Все нормально, мама!»
10.25 «Одиссея команды Кухто».
10.55 Компьютерный полигон.
11.15 Вершина мира.
11.45 Столица.
12.15 Сельчане.
12.40 «Стадион для всех».
13.05 Ко Дню медицинского работника. «Хирург Монич». Телеочерк.
13.30 Бон тон. Тележурнал моды.
14.00 МСН.
14.15 Сделано в Беларуси.
14.30 Познай себя. Дайджест.
15.10 Олимп.
15.40 Ток-шоу «Будни».
16.25 Евролига КВН. «День медицинского работника».
17.55 Футбол. Кубок УЕФА-Интертото. Матч 1-го раунда. «Днепр-Трансмаш» (Могилев) — «Силькеборг»(Дания).
19.55 Из достоверных источников.
20.15 «АРТ-клуб».
20.45 Премьера песни.
21.00 Панорама.
21.50 «Христофор».
22.10 «Ваша Лика Ялинская».
23.40 Видимо-невидимо.

### ОРТ

7.00, 9.00, 14.00, 17.00 Новости.
7.10 Слово пастыря.
7.25 «Все путешествия команды Кусто».
8.15 «Ералаш».
8.25 Играй, гармонь любимая!
9.10 Смак.
9.30 Ускоренная помощь.
10.00 «С легким паром!»
10.30 Утренняя почта.
11.00 «Корона Российской империи», «Снова неуловимые». Худ. фильмы.
13.25 «Цивилизация»
14.10 Сериал «Горец».
15.00 Седьмое чувство.
15.40 «Эх, Семеновна!»
16.20 Детектив-шоу.
17.15 Песня года.
18.00 «Женские истории».
18.30 «Неисправимый лгун». Комедия.
20.00 Программа С.Доренко.
20.55 Брендон Ли в боевике «Беглый огонь».
22.40 Футбол. Чемпионат Европы. Сборная Румынии — сборная Португалии.

### РОССИЯ

7.00 Кинокомедия «Дать сдачи».
8.30 Почта РТР.
9.00 Доброе утро, страна.
9.50 «Сто к одному».
10.35 Сам себе режиссер.
11.05 «Друзья».Сериал.
11.35 Золотой ключ.
12.00, 19.00 Вести.
12.20 Федерация.
13.10 Мелодрама «Танцор диско».
15.15 Планета Земля.
16.10 «Вечера в Политехническом».
17.05 Моя семья.
18.05 «Два рояля».
19.45 «Аншлаг» и К°.
21.30 Футбол. Чемпионат Европы. Англия — Германия.
23.45 Чемпионат Европы по футболу-2000. Итоги дня.
0.00 Чемпионат мира по автогонкам в классе «Формула-1».

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 18 июня

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Мультсериал «Путешествие в прошлое»(США). 5-я серия.
8.30 Здоровье.
9.00, 15.00 Новости.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 Мультиклуб.
9.55 Туробъектив.
10.15 «Все нормально, мама!»
10.45 «Премьер-парад».
11.10 Арсенал.
11.35 Марсово поле.
11.55 Зорная ростань.
12.25 «На волне взаимопонимания».
13.13 «На гребне волны» (США). 5-я серия.
14.00 Док. сериал «Сокровенные люди».
14.15 МСН.
14.30 «Сегодня с вами...»
15.15 «Трансплантация души». Док. фильм.
16.05 «Наши песни».
16.35 Теленавигатор.
16.55 Банка комиксов.
17.25 «В добрый час!» Худ.фильм.
19.00 «Судьба человека». Людмила Лабыкина.
19.30 Стадион.
20.00 Резонанс.
20.45 Ток-шоу «Карамболь».
21.20 А.Папанов и В.Орлова в худ. фильме «Дети Дон-Кихота».
22.40 Акколада.
23.10 Мотокросс. Чемпионат Европы.
23.40 Авто-парк.

### ОРТ

7.00, 9.00, 14.00, 17.00 Новости.
7.10 Служу России!
7.40 «Дисней-клуб»: «Аладдин».
8.10 Утренняя звезда.
9.10 «Непутевые заметки».
9.30 Пока все дома.
10.05 Комедия «Альф».
10.35 Здоровье.
11.05 Худ. фильм «Инспектор уголовного розыска».
13.05 Клуб путешественников.
13.45 История одного шедевра. Русский музей.
14.10 Сериал «Горец».
15.00 Время футбола: ЕВРО - 2000
15.25 Дисней-клуб.
16.20 «Чтобы помнили...»
17.15 «Ералаш».
17.40 Комедия «Воздушные приключения».
20.00 Время.
21.00 Футбол. Чемпионат Европы. Сборная Испании — сборная Словении.
23.05 Ричард Гир и Николас Кейдж в фильме «Клуб «Коттон».

### РОССИЯ

7.00 Мультфильм.
7.20 Папа, мама, я — спортивная семья.
8.20 Устами младенца.
8.55 Доброе утро, страна.
9.30 «Аншлаг» и К°.
10.30 «Городок».
11.00 Русское лото.
11.40 Мультфильмы.
12.00, 19.00 Вести.
12.20 Парламентский час.
13.15 Новая «Старая квартира».
14.10 Диалоги о животных.
15.10 Кинокомедия «Полицейские и воры».
17.00 «Международная панорама».
17.30 Е.Жариков в детективе «Убить «шакала».
20.00 Комедия «Барханов и его телохранитель».
22.15 Футбол. Чемпионат Европы-2000. Норвегия — Югославия.
0.10 Чемпионат Европы по футболу. Итоги дня.
0.25 Чемпионат мира по автогонкам. «Формула-1».
2.25 Док. фильм «Счас-



## Поздравляем!

*Горячо и сердечно поздравляем с днем рождения*
**САВЧЕНКО**
**Раису Михайловну**
*Желаем Вам в работе вдохновенья,*
*В кругу семьи – тепла и доброты,*
*Среди людей – любви и уваженья,*
*А в личной жизни – сбывшейся мечты!*
**Коллектив работников торгового предприятия "Цементторг".**

**Х Х Х**

*Сердечно поздравляем с днем рождения*
**ПАРФЕНОВУ**
**Валентину Ивановну**
*В этот праздник большой*
*Мы с открытой душой*
*Поздравляем тебя с днем рожденья,*
*И хотим пожелать: бед и горя не знать,*
*Не болеть, не грустить,*
*Всегда здоровой и радостной быть.*
*Пусть этот день морщинок не прибавит,*
*А старые – разгладит и сотрет,*
*Здоровье укрепит, от горестей избавит*
*И счастье в дом надолго принесет.*
**Коллектив городского отделения связи № 4.**

**Х Х Х**

*Горячо и сердечно поздравляем с днём рождения дорогую, любимую бабушку*
**КОНОШЕНКО**
**Александру Тимофеевну**
*Проходят годы, как одно мгновенье,*
*Считая их, не надо унывать,*
*Позвольте вас поздравить с юбилеем,*
*Но даты этой вслух не называть.*
*Пусть эта замечательная дата*
*В душе оставит добрый след.*
*Желаем вам всего, чем жизнь богата:*
*Здоровья, счастья, мира, долгих лет!*
**Внуки Александр, Ольга, Руслан, Юлия, Алина.**

**Х Х Х**

*Сердечно поздравляем с 50-летием со дня рождения*
**ШВЕДОВА**
**Виктора Михайловича**
*Ваш юбилей – не много и не мало,*
*Это жизни не предел,*
*А говорят, что зрелости начало*
*И впереди еще немало дел.*
*Мы Вам здоровья крепкого желаем,*
*Ведь оно – всего важней,*
*Ну, а еще Вам пожелаем*
*Столетний встретить юбилей.*
**Коллектив СШ № 1.**

**ХХХ**

*От всего сердца поздравляем с днём рождения*
**ВАСИЛЕНКО**
**Светлану Васильевну**
*В день чудесный юбилея*
*Желаем счастья от души,*
*Пусть все последующие годы*
*По праву будут хороши.*
*Пусть каждый день несёт лишь радость,*
*Успех во всём, уют в семье,*
*Пусть позже всех приходит старость,*
*Живи подольше на земле.*
**С любовью семья Рыбалко.**



**НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ**



# БУКЕТ РУЖ НА КАНВЕРЦЕ

Рабочы дзень заканчваўся. Вольга прыбірала са стала рознага аб'ёму бутэлечкі, запоўненыя і парожнія. Адарваўшыся ад сваёй звычайнай справы, а яна больш дваццаці гадоў аддала ёй, у думках міжволі апынулася дома. Уявіла, як муж п'яны, нават не зняўшы абутку, спіць на канапе ў верандзе, а яна прыйдзе, зноў расхвалюецца – да гэтага прывыкнуць цяжка – зноў давядзецца піць лякарства ад крывянога ціску. Тут жа і ўспомніла, што не перашкодзіла б набыць патрэбных таблетак. Толькі дастала з шафы сумачку, паглядзець ці дастаткова для гэтай пакупкі ў яе грошай, як на парозе з'явілася загадчыца аптэкі.

— Пятроўна, прабачце, калі ласка, атрымала пошту, адразу не было часу пагладзець, а цяпер вось разгарнула газеты, а ў іх для вас пісьмо, — прамовіла яна і працягнула Вользе тоўсты канверт, які ўпрыгожваў вялікі букет руж на малюнку побач з адрасам. Адваротнага адрасу на канверце не было. Вольга адразу разгубілася. Ёй ніхто ніколі не пісаў пісьмы на аптэку. Адзіная дачка, якая выйшла ўдачна замуж, толькі часта звоніць, можа "дастукацца" і на работу, каб даведацца пра здароўе маці, бо добра ведае сямейныя абставіны.

Вольга падзякавала за пісьмо. Аднак адкрыць не спяшалася. Хацела застацца хутчэй адна. Праўда, загадчыца доўга і не затрымалася. Вольга дастала лісток паперы з канверта і вочы яе спыніліся на прывітальных словах гэтага таямнічага пасланія: "Волечка, прывітанне! Піша табе крымскі сябар Лёва..."

Сэрца Вольгі, здалося, спынілася, а затым застукала што ёсць сілы. "Бацюхны, з чаго б гэта! Прайшло амаль 15 гадоў, як сустрэліся ў санаторыі на Чарнаморскім узбярэжжы, і на табе..."

Вольга ўпершыню тады атрымала санаторна-курортную пуцёўку на пячэнне. Прыехала перад абедам. Першай прыйшла ў сталоўку. Не паспела заняць месца за столікам, як да яе падселі трое мужчын. Яны гучна размаўлялі паміж сабой, жартавалі і адразу пачалі знаёміцца. Вольга няёмка адчувала сябе ў кампаніі гэтых балбатуноў, і таропка ўзнялася з-за стала.

— Волечка! Вы так мала елі, — заўважыў адзін з мужчын. – Спяшаецеся? — спытаў ён.

— Так. Хачу хутчэй уладкавацца, бо толькі прыехала, — адказала яна.

— А мы ўжо тут як свае – трэці дзень адпачываем. Давайце вечарам сустрэнемся, я пакажу вам горад, – прапанаваў, як ёй здалося, самы вясёлы – Лёва.

— Не, я сёння вельмі стамілася і з дарогі хачу адпачыць.

— Добра, спадзяюся, што часу ў нас хопіць пазнаёміцца са славутасцямі горада.

... На наступны дзень сусед па сталоўцы зноў запрасіў Вольгу паглядзець горад. Толькі ж Вольга не забылася, як на развітанне сяброўкі жартавалі: "Глядзі не заводзь курортных раманаў, а то пахудзееш не ад паўднёвага сонца, а ад пачуццяў".

— Не, — рэзка адказала Вольга, — у мяне ўжо было дастаткова часу, каб прайсці гэты гарадок уздоўж і ўпоперак.

— Ну, што ж, тады давайце сходзім у кінатэатр, сёння цудоўны фільм, — не адставаў Лёва.

— Я падумаю.

Разумеючы, што Вольга неяк скована адчувае сябе ў іх кампаніі, мужчыны на вячэру прыйшлі першымі, хуценька ачысцілі посуд. Вольгу чакалі каля ўваходу ў сталоўку. А яна са сваёй суседкай па пакоі, пакуль абмяркавала планы на вечар, крыху спазніліся. Кавалеры сядзелі на лавачцы, раз-пораз пазіраючы на дзверы, і як толькі там з'явіліся жанчыны, яны паспяшаліся насустрач.

Дамовіліся вечарам сустрэцца.

...Вольга з Верай толькі што збіраліся пакінуць пакой, як у дзверы пастукаліся. Вера адчыніла, а за парогам стаялі іх знаёмыя, трымаючы кожны ў руках па букету кветак.

Вольга ўпершыню, не лічачы дня вяселля, атрымала прыгожы букет руж. Лёва падарыў іх за знаёмства. Яны ішлі па сцяжыны, густа абсаджанай дэкаратыўнымі кустамі, каля шматпавярховага корпуса. Вольга мала гаварыла. Больш слухала цікавае паведамленне пра тое, дзе яму ўдалося за некалькі дзён адпачынку пабыць, што пабачыць.

— Я абавязкова паводу цябе да фантана кахання, там так цудоўна! — гаварыў з захапленнем Лёва. — Я кожны дзень бываю там раніцай, калі няма людзей і вада нібы шапоча з табою.

За размовамі Лёва пяшчотна абняў сваю спадарожніцу. Аднак Вольга павярнулася і выслізнула з яго абдымкаў. Ёй было няёмка: не паспелі пазнаёміцца, а ён ужо рукі працягвае.

— Волечка, чаго ты такая дзікая, паглядзі, вакол нікога няма з тваёй вёскі?

— Дарэчы, я не з вёскі. Даўно самастойная, у мяне дачка школьніца. Вядзіце і вы сябе прыстойна, — адрэзала жанчына. — А калі мая прысутнасць вам не да спадобы, я не пакрыўдую. Фільм з задавальненнем пагляджу адна, на білет, спадзяюся, грошай хопіць.

На дзіва, паміж імі не наступіла паўзы маўчання. Вользе хацелася выглядзець недаступнай, Лёва разумеў яе і не надта пасля гэтага "працягваў рукі".

Яны проста былі сябрамі. Лёгка і прыемна Лёву было бавіць час з гэтай жанчынай строгіх правілаў: "У танцы блізка не прытуляйся, у цемры блукаць па гораду не будзем, пасля адзінаццаці ў пакой не заходзь..."

Ён вывучыў усе гэтыя "нельга" хутка і чамусьці яму было прыемна падпарадкоўвацца гэтай прывабнай жанчыне.

З санаторыя Лёва з сябрамі паехалі першымі. Вольга тры дні яшчэ адпачывала з Верай. Успаміналі, колькі за гэты кароткі час цудоўных імгненняў падарылі ім сябры.

А дома Вольгу чакаў Іван, які ўжо тады добра прыкладваўся да чаркі. А цяпер, наогул, звар'яцеў. Праўда, ён не біў яе і прэтэнзій ніякіх не прад'яўляў, раніцай прасіў прабачэння, а вечарам зноў спаў на канапе ў верандзе у абутку.

... Вольга разглядвала паперкі, якія ляжалі ў канверце, сярод якіх была... пуцёўка ў санаторый, білет на дарогу і кароткая запіска. "Вельмі хачу цябе пабачыць. Буду чакаць. Сустрэну на вакзале ў Сімферопалі. Лёва".

**Наталля КАВАЛЁВА.**

**СЛУЖБА 01**

## Особый режим посещения лесов

Более половины белорусских лесов имеют первый и второй класс природной пожарной опасности. В 61-м административном районе, это в основном в Брестской, Гомельской, Могилевской и Минской областях, где находится третья часть лесов и торфяных месторождений, в среднем происходит до 11,2 тысячи случаев возникновения пожаров (исходя из анализа 92-99-го годов).

Количество возгораний в лесах и на торфяниках резко возрастает со второй половины мая до октября. В отдельные, наиболее засушливые годы, число пожаров увеличивается до 18 тысяч (1992 год).

На основании решения районного исполнительного комитета от 30. 05. 2000 года с первого июня 2000 года вводится особый режим посещения лесов и торфомассивов Костюковичского района. Категорически запрещается разведение костров, применение открытого огня, а также курение в лесах и на торфяниках. В случае выявления указанных нарушений к этим гражданам будут применены меры административного воздействия.

В тушении пожаров в лесах и на торфяниках главная ответственность возложена на подразделения пожарной охраны соответствующих министерств и ведомств. Однако на практике получается наоборот – подавляющее количество пожаров в лесах и на торфяниках ликвидируется пожарной аварийно-спасательной службой Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь. Соответствующие службы министерств и ведомств малочисленны и не обеспечены необходимой техникой и вооружением.

**Виталий ЛУКАШЕНКО,**
**инспектор инспекции государственного пожарного надзора аварийно-спасательной части г. Костюковичи.**



*На прыволлі.*
*Фотаэцюд Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.*

## Да ўвагі абанентаў!

З 1 ЧЭРВЕНЯ 2000 ГОДА ЎСТАНОЎЛЕНЫ НОВЫЯ ТАРЫФЫ НА ЭЛЕКТРЫЧНУЮ ЭНЕРГІЮ. ГАРАДСКОЕ НАСЕЛЬНІЦТВА ПЛАЦІЦЬ ЗА 1 кВт ГАДЗІНУ – 7,2 РУБЛЯ, ВЯСКОВАЕ – 5,2 РУБЛЯ. ЭЛЕКТРЫЧНЫ АБАГРЭЎ КАШТУЕ – 14 РУБ., СІЛАВЫ ЎВОД – 22 РУБЛІ ЗА 1 кВт ГАДЗІНУ.

*Просім абанентаў зняць паказанні электралічыльнікаў па стану на 15 чэрвеня г.г. і цалкам разлічыцца за электраэнергію.*

**РАЁН ЭЛЕКТРЫЧНЫХ СЕТАК.**



**Калектыў і вучні 9 "А" класа сярэдняй школы № 1 выказваюць глыбокае спачуванне ШПАКАВАЙ Надзеі з выпадку дачаснай смерці БАЦЬКІ.**


**Нам. галоўнага рэдактара Віктар БОНДАРАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар – 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар – 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі – 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя –2-23-55.*

*Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.*
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1666 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 9. 06. 2000 г. 18:00*
*Заказ № 44*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.